4 сакавіка „Ніве“ споўнілася дваццаць год. Узрост у самы раз, каб задумацца над месцам у жыцці, спрабаваць акрэсліць яго.

Узыходзіла „Ніва“ на цаліне. Да нас на Беласточчыне беларускае друкаванае слова жыло кароткім жыццём эфемерыды, не пакідаючы пасля сябе трывалых слядоў. Не атрымалі мы ў спадчыне ні вопыту папярэднікаў, ні падрыхтаванай чытальніцкай базы. І пераадольваючы недамаганні дзіцячага ўзросту, вымушаны былі змагацца і з капрызамі некранутых чытальніцкіх нетраў (тлумачылі, напрыклад, чаму пішам на роднай мове).

мы літаратурны рух „белавежцаў“, стварылі „Зорку“, збіралі фальклор, даследавалі гісторыю і культуру роднага краю. Грамадства з'яўлялася альфай і амегай нашых публікацый. Служылі мы яму, як умелі. Пры дзейснай яго дапамозе, стараліся ставіць на сваіх старонках усе важныя справы, жылі імі, і ў няясных сітуацыях не хавалі галаву ў пясок, не казалі: мая хата з краю. Неслі баявую адказнасць за давераны нам участак грамадскага жыцця.

Значыць, у сваёй маладосці былі мы актыўным звяном будаўнікоў новага. І гэта наш супольны гонар.

А што на будучыню?

# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 10 (1045) ГОД XXI 7 САКАВІКА 1976 г. ЦАНА 60 гр.

## Пуцяводныя думкі

Па праўдзе той, хто не цэніць жыцця, яго не заслугоўвае.

*Леанарда да Вінчы*

Жыццё мае сэнс толькі як заданне або доўг.

*Дж. Мадзіні*

Хто трапляе далей цэлі, той таксама прамахнецца, як той, хто не трапіў у цэль.

*М. Мантэнь*

Ніколі не можа быць сапраўднай уцехі там, дзе ўцеха ператвараецца ў занятак.

*І. Кант*

## НАМ — 20! НАМ ТОЛЬКІ 20!

Значыць, было ў нас цяжкое дзяцінства.

Расла „Ніва“ ў бурлівы перыяд ломкі старых мадэляў і станаўлення новых грамадскіх структур. Не адставалі мы ад перамен, якія адбываліся ў жыцці нашага грамадства і краіны. Раслі разам з чытачамі. Неслі ім сваё слова, але таксама выказвалі грамадскую думку. Ёй адводзілі асаблівае месца. І не толькі ў „Трыбуне чытачоў“, якую лічым адным з найбольшых сваіх дасягненняў. Грамадства часта звяртала нашу ўвагу на з'явы, якія, у сваю чаргу, дзеля карысці грамадства, мы крытыкавалі. І зыходным пунктам усіх нашых ініцыятываў была грамадская карысць. Пад яе дыктоўку пачыналі

Пачынаючы сёння другое дваццацігоддзе, мы не ўступаем у клуб сеньёраў. Лічым на другую маладосць. Лічым на цеплыню пачуццяў чытачоў, якая ўстрымае ў нас холад старэння.

Абяцаем, дарагія чытачы, трымацца вашых дарожных правіл, устаноўленых вамі 20 год таму назад: не класці ў талаву чытачу формулы і дэфініцыі, не быць прарокам, імкнуцца пісаць арыгінальна, жыва, уздзейнічаць не толькі на думкі, але і на ўяўленні і пачуцці, спрыяць адчуванню прыгажосці жыцця, несці жаданы адпачынак пасля працы.

Думаем, што нам гэта пад сілу. Нам жа толькі 20!



*Беласток. Вуліца Весялоўскага. У цэнтры „Дом друку“, у якім змяшчаецца і наша рэдакцыя.*

*Фота Я. Цялушэцкага.*

## ЧЫТАЧЫ АБ „НІВЕ“

Дваццаць год прайшло з той пары, як да жыхароў Беласточчыны і не толькі Беласточчыны трапіў першы нумар „Нівы“. Крок за крокам ішла яна за жыццём, астаўляючы кожны тыдзень на старонках яго фатаграфію, на якую складалася і складаецца рознае. Як гэта ўдавалася — не нам сябе ацэньваць. Час, каб і чытачы выказаліся. Зразумела, выслухаць усіх і ўсе выказанні замясціць на старонках — рэч амаль немагчымая. Але так хаця б некалькі.

Звярнуўся я да начальніка пасынскай пошты Сцяпана Кучынскага.

— З „Нівай“ я знаёмы ад самага яе нараджэння, — пачынае ён. — Памятаю сваю радасць, калі ўбачыў першы экземпляр новай газеты, ды на нашай роднай мове. Зразумеў я тады сваё заданне як працаўніка вясковай пошты. З сябрамі-супрацоўнікамі ўсімі сіламі мы стараліся разбудзіць зацікаўленне ў людзей да гэтай газеты. Не кожны ж так адразу даведаўся аб яе паяўленні, а мы ж былі тымі людзьмі, абавязкам якіх (і духоўным і як працаўнікоў) было паказаць ды заахвоціць. З многімі газетамі ды часопісамі сустракаюся я ў сваёй працы. Калі большасць з іх (перш за ўсё тыя, якія выходзяць кожны дзень) пасля двух-трох год можна лічыць макулатурай, то аб „Ніве“ гэтага не сказаў бы. Ці пяць год таму назад, ці дзесяць, ці ўзяць нават першыя нумары — заўсёды можна знайсці тое, што і цяпер мае сваё значэнне. А гэта таму так, што на старонках „Нівы“ ёсць усё: гумар, мастацкая літаратура, гісторыя. А ці ж гэта траціць калі сваю вартасць? Мне здаецца, што наадварот. Вось тут і скрываецца вялікае значэнне „Нівы“. Ну, што б тут яшчэ? Ну, адным словам, гэта такая газета, у якой кожны для сябе нешта знойдзе.

А цяпер давайце перакінемся на вёску, бо менавіта туды найбольш трапляе нашай газеты. Цікава што думаюць аб ёй сяляне. Паслухаем Ганну Шаховіч і яе мужа Андрэя з Сакоў, якія „Ніву“ выпісваюць ужо штосьці каля 15 год.

— О! „Ніву“ я вельмі люблю! Як ужо прынясе лістаноша, то ад пачатку да канца яе прачытаю. Тут так усё проста напісана, такімі знаёмымі словамі, што аж чытаць хочацца. Так, як бы ўсё бачыла, што чытаю. І

(Працяг на стар. 5)

Многа ў жыцці губляеш, калі „Ніву“ не чытаеш!

## ЛЮДЗІ БГКТ

## Ніна Мушынская



Ніна Мушынская...? Хто яе не ведае?! Усе, хто чуў пра гарадоцкіх самадзейнікаў, а многія не толькі чулі, але і не раз бачылі выступленні, якіх далі ўжо больш шасцісот, напэўна яе ўспомняць. Напэўна перад вачыма ўзнікне вобраз невысокай, старэйшай, але поўнай энергіі жанчыны, якая ўсё сваё жыццё спалучыла з жыццём і грамадскай дзейнасцю калектыву ў адну непадзельную цэласць. Нельга гаварыць пра „Гарадок“ (бо так называюць нашых самадзейнікаў), не ўспамінаючы Н. Мушынскай, і нельга гаварыць пра Н. Мушынскую, не ўспамінаючы „Гарадка“. Гэта было б так, як бы расказвалі пра жыццё чалавека, якому перад тым забралі сэрца. Ды зрэшты, сама яна, гаворачы пра сябе, гаворыць пра гурток.

Сваю дзейнасць распачала яна ў 1947 годзе, арганізуючы ў Гарадку дзяцінец малышам, якім гады не дазвалялі паступіць у школу. Да 1949 года была

(Працяг на стар. 4)

Палічылі мы год 1975 у карэспандэнцкай дзейнасці на „Ніве“. І зноў адразу трэба пахваліцца: выйшаў ён багацейшы, больш плённы, чым папярэдні. Імпануючы год! Вялікая перамога карэспандэнтаў „Нівы“! Усё расце і расцвітае, растуць і расцвітаюць нашы карэспандэнты — верныя сябры „Нівы“ ў добрым і нядобрым, у пахвале і крытыцы. А вось канкрэтныя лікі:

Карэспандэнты нашы апублікавалі за 1975 год 634 карэспандэнцыі — інфармацыі і артыкулы (1974 г. — 502).

## КАРЭСПАНДЭНТ ГОДА

У 1975 годзе выступіла ў „Ніве“ 113 прозвішчаў, псеўданімаў і крыптанімаў. Некаторыя карэспандэнты выступалі пад некалькімі псеўданімамі, і, калі адкінем падвойныя азначэнні, выйдзе, што карэспандэнтаў было ў нас 95 асоб (1974 г. — 67).

А вось найбольш актыўныя карэспандэнты 1975 года і колькасць іх матэрыялаў:

1. Эдмунд Вайсковіч — 72 (53)
2. Уладзімір Сідарук — 66 (21)
3. Мікалай Панфілюк — 62 (49)
4. Уладзімір Хомік — 53 (66)
5. Пётр Байко — 38 (31)
6. Мікалай Няплоха — 30
7. Віктар Бура — 29 (27)
8. Жэня Аўсенюк — 28 ( 7)
9. Янка Бандарук — 22
10. Валянцін Анапюк — 20
11. Іван Кірызюк — 20 (11)
12. Янка Міхалюк — 19
13. Юрка Паплаўскі — 10
14. Васіль Петручук — 10 (17)
15. Ольга Пракапюк — 8 ( 7)
16. Уладзімір Азябла — 8
17. Мікалай Краўчук — 8 ( 9)
18. Янка Швед — 7
19. Міхась Матвеюк — 7 ( 7)
20. Уладзімір Сац — 6

У дужках падаем колькасць публікацый за 1974 год — для параўнання. Там, дзе няма дужак, карэспандэнты або не пісалі, або не апынуліся на пунктаваных месцах.

Вышэй адзначаныя 20 карэспандэнтаў напісалі ў 1975 годзе разам 521 заметку (на 634 усіх). Іншыя карэспандэнты далі па 5 або менш матэрыялаў і таму не апынуліся на пунктаваных месцах.

(Працяг на стар. 4)

*Towarzysz*
*Jerzy Wołkowycki*
*Redaktor Naczelny*
*„Niwy”*

*Z okazji pięknego jubileuszu 20 rocznicy powstania Tygodnika „Niwa” przesyłamy Wam i wszystkim pracownikom redakcji najlepsze gratulacje i pozdrowienia.*

*Z uznaniem pragniemy podkreślić duży dorobek „Niwy” w kształtowaniu świadomości społecznej i aktywnych postaw swoich Czytelników, w rozwoju ekonomicznym i kulturalnym regionu, w pogłębianiu przyjaźni i współpracy sąsiedzkiej oraz wymianie doświadczeń ludzi pracy Białostocczyzny i radzieckiej Białorusi.*

*Życzymy Wam, koleżanki i koledzy, dalszych sukcesów w pracy, wciąż rosnącego uznania Czytelników, dużo osobistej satysfakcji i wszelkiej pomyślności.*

*Za kolegium redakcyjne*
*„Gazety Współczesnej”*
*Jan Socha*
*Redaktor Naczelny*

*Towarzysz Jerzy Wołkowycki*
*Redaktor Naczelny*
*Tygodnika „Niwa”*

*W związku z dwudziestoleciem Waszego Pisma składamy Zespołowi serdeczne gratulacje i życzenia dalszych sukcesów zarówno w działalności publicystycznej jak i organizatorskiej. Podzielamy opinię licznego grona Waszych stałych czytelników, którzy bardzo wysoko oceniają Tygodnik. Podejmujecie bowiem kwestie najbardziej frapujące i godne popularyzowania, nie pomijając centralnego zagadnienia — intensyfikacji gospodarki żywnościowej. Gratulujemy i życzymy Waszemu Zespołowi, nielicznemu, ale jakże ambitnemu, dalszych dobrych rezultatów!*

*W imieniu*
*białostockiego zespołu*
*„Naszej Wsi”*
*Jerzy Sawicki*

*Наш каляндар*

# ВЫДАТНЫ САТЫРЫК, ДРАМАТУРГ І ВУЧОНЫ

Славутаму майстру сатыры і гумару, таленавітаму драматургу, народнаму пісьменніку Беларускай ССР **Кандрату Кандратавічу Крапіве** 5 сакавіка бягучага года спаўняецца 80 год жыцця і 55 год творчай працы на ніве беларускай літаратуры.

Сялянскі хлапчук з глухой вёскі Нізок на Міншчыне, прагны ведаў вучань маламестачковых вучылішчаў у Стоўбцах і Койданаве, ён у 1913 г. экстэрнам здае экзамен на званне настаўніка народнай школы, каб сеяць светлае і высакароднае ў сэрцах такіх жа, як і сам, сялянскіх дзяцей. Але падзеі вырываюць яго са школы і кідаюць на фронт I сусветнай вайны. Пасля дэмабілізацыі ён зноў настаўнічае, аднак, змаганні маладой Савецкай Рэспублікі з іншаземнымі інтэрвентамі паклікаюць яго ў рады Чырвонай Арміі. І там, у часе кароткіх перадышак паміж паходамі, нараджаюцца яго першыя літаратурныя спробы. У іх адразу выявіўся востры кіпцюр сатырыка: „Я расту вось тут, пад плотам, і не так даўно ўзышла, а ўжо многім абармотам рукі-ногі папякла“, — аб'яўляе ён у 1922 г. у вершы „Крапіва“, загаловак якога і стаў яго, Кандрата Атраховіча, літаратурным псеўданімам. Потым, у вольныя хвіліны, ці то ў часе настаўнічання, ці працы інструктарам у Інстытуце беларускай культуры ў Мінску, ці, урэшце, вучобы ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, з-пад яго пяра, быццам з рогу дастатку, сыплюцца гумарэскі, байкі і сатырычныя вершы, што „выстаўляюць на паказ, на смех адмоўныя з'явы жыцця“ і гэтым садзейнічаюць сацыялістычным пераўтварэнням у грамадстве (зборнікі „Асцё“, „Крапіва“ (1925 г.). Хто з нас не ведае на памяць, як гэта „Сцяпан і брат яго Васіль шнурок надоечы касілі...“ („Сука ў збане“), ці калі „Ехаў Дзедка на кірмаш, з ім на возе — Баба...“ („Дзед і Баба“), або як „Аслу раз выдалі мандат, — няйначай памылкова...“ („Мандат“), ці як „У адным сяле (не важна — дзе) хадзіў Баран у чарадзе...“ („Дыпламаваны Баран“) і што было далей у гэтых і дзесятках іншых баек, якія сталі здабыткам кожнага беларуса?



*Кандрат Крапіва падпісвае свае кніжкі чытачам.*

Не меншым поспехам, чым байкі і сатырычныя вершы, карыстаюцца і апавяданні таленавітага пісьменніка. І ў іх сатыра К. Крапівы бязлітасна крытыкуе адмоўныя з'явы ў жыцці („Людзі-суседзі“, „Аднае раніцы“, „На алкагольным фронце“), высмейвае мяшчанскую мараль („Смерць“), пляткароў („Вайна“), розную ілжывасць („Мой сусед“). А ў 1932 г. выходзіць яго красачная панарама беларускай вёскі 20-30 гадоў нашага стагоддзя — першая частка рамана „Мядзведзічы“.

Неўзабаве ад сатырычнай паэзіі і прозы К. Крапіва пераходзіць да драматургіі. Ужо яго першая псіхалагічная драма „Канец дружбы“ (1934 г.), якая канцэнтруе ўвагу на прабледзе дружбы і вырашае яе з пазіцыі сацыялістычнага патрыятызму і гуманізму, карыстаецца аграмадным поспехам у гледачоў. Яшчэ большы поспех мела другая п'еса К. Крапівы — „Партызаны“ (1937 г.). Цікава, што яна была 22 кастрычніка 1939 г. пастаўлена сённяшнім Беларускім тэатрам імя Я. Купалы для ўдзельнікаў Народнага сходу Заходняй Беларусі ў Беластоку. Вось як пісаў орган ЦК ВКП(б), газета „Правда“, аб уздзеянні п'есы на гледачоў: „Здарылася тое, чаго не прадбачылі ні аўтар, ні рэжысёр. Сцерлася грань паміж сцэнай і глядзельнай залай. Людзі, якія на тэатральнай гаворцы называюцца публікай і абавязаны сядзець ціха, займаючы месца згодна з білетамі, ускаквалі з крэслаў і горача ўдзельнічалі па ходу дзеяння ў масавых сцэнах спектакля...“

Наступны сцэнічны твор драматурга — „Хто смяецца апошнім“ (1939 г.) па праву лічыцца „беларускай класікай у жанры сатырычнай камедыі і вяршыняй драматургічнай творчасці К. Крапівы“. Пра гэта перакканальна сведчыць факт, што гэтая п'еса ставілася і ставіцца больш як у васьмідзесяці тэатрах Савецкага Саюза, а таксама па-за яго межамі, у тым ліку і ў Народнай Польшчы. Вельмі спадабаліся гледачу і п'есы К. Крапівы „Проба агнём“ (1943 г), „Мілы чалавек“ (1945 г.), „Пяюць жаваранкі“ (1950 г.), „Людзі і д'яблы“ (1958 г.) і іншыя драматычныя творы пісьменніка. Драматургічная творчасць К. Крапівы ўзняла беларускі тэатр на вышэйшую ступень яго развіцця, папулярнасці і ўздзеяння на гледача.

К. Крапіва вядомы як аўтар літаратуразнаўчых і крытычных артыкулаў, лінгвістычных прац (між іншым, як навуковы рэдактар „Беларуска-рускага слоўніка“), а апошнім часам як віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук БССР і актыўны член Рэдакцыйнай калегіі Беларускай Савецкай Энцыклапедыі. Ён — актыўны ўдзельнік палітычнага і грамадскага жыцця БССР, як дэпутат удзельнічаў у працах Вярхоўнага Савета БССР, за заслугі для развіцця беларускай культуры і навукі ўзнагароджан 3 ордэнамі Леніна, ордэнам Кастрычніцкай Рэвалюцыі і іншымі ордэнамі і медалямі, а таксама з'яўляецца лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі за 1971 год. (ic)

# Айчына — патрыятызм — дзяржава

20 лютага г.г. пад старшынствам Эдварда Герка адбылося ў Варшаве чарговае, трэцяе пасля VII з'езду пленарнае пасяджэнне Цэнтральнага Камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі. У канун выбараў у Сейм ПНР і ў рады нарадовыя партыя паставіла на ўсенароднае абмеркаванне самыя прынцыповыя, самыя асноўныя вартасці ў жыцці кожнага сумленнага чалавека і свядомага грамадзяніна.

„Будуючы народную сацыялістычную польскую дзяржаўнасць, упершыню ў нашай гісторыі стварылі мы дзяржаву, сапраўдным суб'ектам і гаспадаром якой з'яўляецца народ“.

Так з трыбуны пленума гаварыў Эдвард Герэк, калі выступаў з дакладам Палітбюро „За паглыбленне патрыятычнай еднасці народа, за ўмацаванне дзяржавы і развіццё сацыялістычнай дэмакратыі“.

Прывыклі мы, што калі пленум ЦК, дык перш за ўсё трэба спадзявацца новых указанняў у галіне эканамічнай стымуліроўкі нашага жыцця. А тут зусім слушна партыя нам прыпомніла, што нельга аддзяляць свядомасць чалавека ад яго матэрыяльнага быту, бо адно і другое зазубляецца ўзаемна і пастаянна ў складаных працэсах чалавечага жыцця.

„Дзякуючы глыбокім грамадска-эканамічным пераўтварэнням, — гаварыў першы сакратар, — польскі народ становіцца сацыялістычным народам працоўных“.

А крыху далей:

„Польшча ёсць і можа быць толькі сацыялістычнай, а наша дзяржава — гэта ўстанова, якую стварыў народ дзеля свайго дабра, дзеля ажыццяўлення яго цяперашніх і перспектывічных найбольш асноўных патрэб. Народ, Айчына і дзяржава — гэта непарыўная еднасць“.

Вось менавіта, народ — Айчына — дзяржава і мы, кожны з нас, кожны радавы грамадзянін у штодзённым жыцці. Як яшчэ часта даводзіцца чуць: „Гэта ж не маё — дзяржаўнае, „казённае“. Або: „Я ж не сабе, а для дзяржавы працую, дык чаго ж мне старацца“. Гэтае размежаванне на „сваё“ і „дзяржаўнае“ асталося нам у спадчыне ад таго часу, калі „дзяржава“ азначала адначасова „прыгнёт народа, эксплуатацыю народа“, калі яна атоесамлівалася з класам паноў.

Цяпер, дзякуючы кіруючай у народзе ролі партыі, гэта ўжо карэнным чынам змянілася. І таму, як адзначаецца ў дакладзе Палітбюро, трэба нам замацоўваць у нашым грамадстве гэтае, адзіна правідловае перакананне, што любоў да Айчыны найбольш поўна праяўляецца ў станоўчых адносінах да дзяржавы. „Патрыятызм, — гаварыў Э. Герэк, — гэта дбайнасць пра справы дзяржавы і сумленнае выкананне сваіх абавязкаў. Гэта адначасова штодзённая праца і эфекты гэтай працы, якія павінны быць асноўнай крыніцай і галоўным крытэрыем ацэнкі паводзін кожнага грамадзяніна. На гэта трэба нам, — адзначаў дакладчык, — пастаянна звяртаць увагу ў грамадскім жыцці, у палітыцы партыі і дзяржавы; трэба нам замацоўваць у нашым грамадстве пашану для людзей добрай работы, будзіць імкненні да павышэння сваіх кваліфікацый, да атрымання лепшых эфектаў у працы, імкненні да спаборніцтва і ўдарніцтва...“ (вр)

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota — 6.III.** 6.30 Tech. Rol. J. pol. 7.00 Mat. 8.00 Mech. rol. 8.30 Pr. I prop. 8.45 Pr. dnia. 8.50 Olimp. Wiedzy Rol. 10.00 Pr. dla klas najmł. 10.10 Red. Szk. zap. 11.50 Jazdy na nartach uczy K. Schranz. 12.00 Postaw się nie zastaw się. 12.50 K. Szymanowskiemu na otwarcie jego muzeum. 13.50 Studio 2.

**Niedziela — 7.III.** 6.25 Tech. Rol. Mat. 6.55 Kurs Rol. 8.00 Przyp., radz. 8.20 Now. w domu i zagr. 8.35 Bieg po zdr. 8.50 Pr. dnia. 8.55 Sport. 9.00 Teleranek. 10.20 Antena. 10.40 Drużyna Siomki — film fab. radz. 11.55 Lekt. Pegaza. 12.15 Dzien. 12.35 Piórk. i węglem. 13.00 Zakończ. Tel. Fest. Wid. Lalk. 14.00 Pokazy mistrz. św. w j. fig. na łodzie. 16.00 Los. Toto-Lot. 16.30 Refl. ob. 16.30 Wiersze w plecaku. 17.20 Róże Montreux. 17.40 Polska w oczach świata. 18.20 Muzyczny bukiet. 19.15 Wieczor. 19.30 Dzien. 20.20 Bajka dla dor. 20.35 Pr. rozr. Jeremiego Przybory. 22.10 Nana — odc. ostat. filmu ser. 22.55 Sport.

**Poniedziałek — 8.III.** 12.45 Tech. Rol. J. pol. 13.25 Mat. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.40 Echo stad. 18.30 Szare na złote. 18.50 Polska w oczach świata. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.25 Teatr na świecie — Antoni Czechow „Te różne przeróżne oblicza”. 21.40 Pr. rozr. 22.45 Dzien.

**Wtorek — 9.III.** 6.00 Tech. Rol. J. pol. 6.30 Mat. 8.00 Film fab. 9.00 Dla szkół: J. pol. 10.00 Pr. dla najmł. 12.00 Hist. kl. VIII. 12.45 Tech. Rol. Wskaz. met. 13.25 Bot. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Na wielk. i mał. ekranie. 17.30 Stud. Mł. 18.20 Fakty, op., hip. 18.50 Polska w oczach świata. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.25 Przyp., radz. 20.30 Trzecia granica — film ser. 21.25 Świat i Polska. 22.10 Dzien. 22.25 Śpiewa Jak Joala (ZSRR). 22.40 Opera.

**Środa — 10.III.** 6.00 Tech. Rol. Wskaz. met. 6.30 Bot. 7.30 W drodze do nowego. 8.00 Film fab. 9.00 Dla szkół: Fiz. kl. VI. 11.05 kl. VIII. 12.00 kl. VIII. 12.45 Tech. Rol. Wskaz. met. 13.25 Mat. 14.40 Kurs Przyg. na Wyższe ucz. Fiz. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.30 Los. Mał. Lot. 17.45 Bez aureoli. 18.10 Rep. 18.40 Teatr na Woli. 19.00 Polska w oczach świata. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Sport. 20.25 Posada — dramat wł. 21.55 Listy i Polityka. 22.25 Dzien. 22.40 Kalina Jędrusik.

**Czwartek — 11.III.** 6.00 Tech. Rol. Wskaz. met. 6.30 Mat. 8.30 Film fab. 10.00 Dla szkół: Hist. kl. VI. 12.55 J. pol. kl. III—IV. 13.25 Tech. Rol. Chem. 14.30 Hod. zwierz. 15.05 Mat. w szk. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Ekran z Bratkiem. 18.05 Poligon. 18.30 Pora odejść. 18.45 Polska w oczach świata. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Sport. 20.25 Przyp., radz. 20.30 Podszepty wyobraźni — film krym. ang. 21.35 Pegaz. 22.20 Pr. rozr. 22.45 Dzien.

**Piątek — 12.III.** 6.00 Tech. Rol. Chem. 6.30 Hod. zwierz. 8.30 Film fab. 10.00 Dla dzieci: Geogr. kl. VI. 11.05 Pr. dla najmł. 12.00 Geogr. kl. VII. 12.45 Tech. Rol. J. pol. 13.25 Mat. 14.40 Kurs Przyg. na wyższe ucz. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.35 Dla mł. widz. Szperacze. 18.00 Świat, który nie może zaginąć. 18.50 Polska w oczach świata. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Sport. 20.30 Lis — film. 20.55 Drogowskazy. 21.40 Dzien. 21.55 Sto pytań do D. Olbrychskiego. 22.25 Inf. Wyd.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 5.III** — 9.00 Koncert. 13.40 Film fab. 17.15 Film fab. 20.00 MŚ w j. figurowej na łodzie. Pary sport.

**Sobota 6.III** — 7.30 Koncert. 9.00 Koncert. 9.15 MŚ. J. fig. na lodzie. Mężczyźni. 12.15 W świecie zwierz. 13.15 Filmy anim. 14.35 Gra orkiestra im. Osipowa. 14.55 Ur. akademia (Dzień Kobiet). Spektakl. Trans. z Teatru Wielk. 19.30 MŚ. J. fig. na lodzie. Pary tan. 21.15. L. atletyka. Mecz ZSRR—USA.

**Niedziela 7.III** — 9.00 MŚ. J. fig. na lodzie. Kobiety. 12.30 Balet. 12.55 Film fab. 14.30 Hokej. CSKA—Dynamo (Moskwa). 16.55 Film fab. 18.00 Klub film. 19.30 Koncert.

## КІНО

**Białowieża** Swój wśród obcych, obcy wśród swoich — radz. 9—10. 40 karatów — USA. 11—12. Blokada I, II s. — radz. 13—14.

**Czeremcha** W imieniu narodu włoskiego — wł. 9—10. Ostatni nabój — rum. 13—14.

**Czyże** Peppino podbija Amerykę — wł. Kobieta z lancetem — radz. 10—14.

**Dubicze Cerkiewne** — Pierwsza spokojna noc — wł. Płonąca tajga — radz. 10—14.

**Gródek** W te dni przedwiosenne — pol. 13—14.

**Kleszczele** Timo Rinnelt porwany — NRD 9—10. Tylko jeden telefon — węg. 11—12. Flip i Flap w Legii Cudzoziemskiej — RFN 13—14.

**Michałowo** W poszukiwaniu miłości — ang. 9—10. Wybawieniem będzie śmierć — fr. 11—12. Koniec wakacji — pol. 13—14.

**Mielnik** Joe Kidd — USA 10. Zaproszenie — szwajc. 13—14.

**Milejczyce** Tajemnica Aleksandra Dumasa — czes. 9—10. Pojedynek na szosie — USA. 11—12. Kalendarz warszawski — pol. 13—14.

**Narew** Gorący śnieg — radz. Tylko wtedy, gdy się śmieję — ang. 10—14.

**Narewka** Orzeł i reszka — pol. Adaś i Ola — czes. 10—14.

**Nurzec** Wycieczka w nieznane — pol. 9—10. Drogi do ojczyzny — pol. 11—12. Przeznaczenie ma imię Kamila — czes. 13—14.

**Orla** Polska gola! — pol. Odstrzał — USA 10—14.

**Rajsk** Był sobie drozd — radz. Queimada — wł. 10—14.

**Suchowola** Moja wojna — moja miłość — pol. 13—14.

B.Z.Graf. Zam. 612 F-2

# ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагая „Ніва", я чытаю заўсёды тое месца, дзе ты разгадваеш сны. Я ўжо старая, мне 72 гады, але хачу, каб і мне ты разгадала сон, бо быў ён вельмі цікавы. Сніцца мне, быццам прыехаў да нас тэатр, ды не хапае адной артысткі. І я мусіла іграць ролю, а да таго — галоўную. Сыграла я яе вельмі добра, і нягледзячы на тое, што я вельмі баялася, што такая старая, то выглядала на 20 год і была вельмі прыгожая. І пачынаю я апранацца — на мне вельмі прыгожая сукенка; валасы мае вельмі доўгія, бліскучыя. Я бяруся часаць галаву, але не дам рады заплясці, дык дзялю на тры пасмы, але ў мяне не клеіцца, бо валасы аж да зямлі. Я прашу адну артыстку, каб яна мне памагла. Яна хутка запляла мае валасы і зрабіла мне на галаве кок, а спераду зрабіла прыгожы чуб. Я выглядала, як красавіца, і надзела прыгожыя туфлі пад колер сукенкі. Усё было сярэдняга колеру: ні цёмнае, ні светлае. Ужо збіралася я ехаць у тэатр, але агледзелася, што я босая. І я засталася ды пачала шукаць туфлі, ператрэсла ўсё, толькі яшчэ куфар адкрыла, а там усяго поўна — белыя прасціні, чахлы і 2 коўдры. Я выкінула коўдры на падлогу і запэцкала іх у пясок. Пасля падняла коўдры і сама крыху запэцкалася ў пясок. Пачала чысціцца, але добра не ачысцілася і туфлей не знайшла. Прачнулася.

Чытачка з Заблудаўскай гміны.

Сон ваш, можа і быў прыемны, але гаворыць аб фальшы, які вас акружае. Тэатр жа — гэта не што іншае, як хлуслівыя сябры. Чакае вас у жыцці нешта новае, нейкі сямейны пераварот, але ва ўсім гэтым нехта абразіць вашы пачуцці (актрыса дапамагла вам прычасацца). Вам сніўся поўны ўсяго куфар, а гэта абазначае, што чакае вас нейкі прыбытак. Толькі з-за яго ўсё ж выпікне нейкая хвароба (коўдра), сплетні, нейкія бруды (вы ж самі бачыце, што запэцкаліся пяском). Што туфлей не знайшлі, можа, і добра. Значыць, ва ўсім гэтым не будзеце падаць духам. А гэта і добра.

Астрон

# Куток практычных ведаў




## МОДНЫ ТУРБАН З ШАЛІКА

Напэўна той, хто сочыць за модай, заўважыў, што ў апошні час сталі вельмі модныя жаночыя турбаны. Носяць іх не толькі ў халодныя поры года, але нават і летам. Дадаюць яны постаці жанчыны модны подых Усходу.

Ёсць у продажы турбаны гатовыя, цёплыя, шарсцяныя. Але вельмі лёгка можна яго зрабіць са звычайнага шаліка. І, паверце, выглядае нават цікавей і больш фантазійна.

Ідэальны для турбана шалік павінен мець 40 см шырыні і 170 см даўжыні.

Як завязаць шалік, каб атрымаўся прыгожы турбан? Прылажыць яго з заду галавы, узяць канцы наперад і тут два разы пераплесці адзін канец з другім. Пасля гэтага даць іх назад, перавязаць, загарнуць канцы, хаваючы іх зверху, а не знізу. Зрэшты, гляньце ўважліва на далучаны малюнак і вы ўсё лёгка зразумееце.

Сяброўка



# Сэрдэчныя тайны

Дарагое „Сэрцайка", парай, што мне рабіць? З дзяўчынай пазнаёміўся я яшчэ ў падставовай школе. Хадзілі разам у школу, гулялі на школьных забавах. Пасля яна пайшла вучыцца ў сярэднюю школу, а я ў прафесіянальную ў горад. Раней мы былі проста сябрамі, але наша сяброўства ператварылася ў вялікае, гарачае каханне, і мы не маглі жыць адзін без другога. Я хадзіў да яе дахаты — бо мы ж з адной вёскі. Аб гэтым ведалі і яе, і мае бацькі. Закончылі мы свае школы і пайшлі працаваць у гэтым жа горадзе. Восенню я пайшоў у войска. Цяжка было расставацца мне з Нінай. Аднак, служба — не дружба... Вельмі часта мы пісалі пісьмы, а калі я атрымаў водпуск, цэлымі днямі ў яе праседжваў. І раптам атрымаў я пісьмо ад сяброў з вёскі, што Ніна выходзіць замуж за хлопца, які мае самаход і ўласны дом. Не паверыў я ім, але хутка прыслала мне пісьмо сама Ніна. Перапрашала за ўсё, што здарылася, і запрашала на шлюб. Не магу выказаць словамі, што са мной тады рабілася. Адслужыў я войска, вярнуўся дамоў, не раз бачу я Ніну і не магу перажыць, не магу знайсці сабе дзяўчыны. Калі і на забаве, хацеў бы гуляць з тою, якая б мела хаця яе імя. Калі і трапіцца, імя, аднак, не заступіць дзяўчыны. Ці сапраўды я ўжо не змагу знайсці сабе дзяўчыну, з якой мог бы жыць добра і цешыцца жыццём?

Янак

Янак, веру, што перажыўшы здраду каханай дзяўчыны, цяжка вярнуць душэўную раўнавагу, і не можаш знайсці сабе дзяўчыны, якая б табе спадабалася, бо месца ў сэрцы пакуль што няма, яго заняла Ніна, ды зраніла балюча. Але рана з цягам часу загоіцца. І ў пэўным моманце спаткаеш дзяўчыну, якую пакахаеш, якая будзе тваім ідэалам.

„Сэрцайка"

# Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: На карысць Ваяводскага ўпраўлення публічных дарог экспрапрыіравана дзялянка гр. П. і прызнана ёй грашовая кампенсацыя. Гр. П. лічыць, што экспрапрыяцыя нязгодна з законам і крыўдзіць яе, а кампенсацыя не поўная і не адносіцца да некаторых частак нерухомай маёмасці, як, напрыклад, плот і садовыя дрэвы. Яна адмовілася прыняць грошы, якія хацела ёй выплаціць Ваяводскае ўпраўленне. Тады Ваяводскае ўпраўленне звярнулася ў суд, і той, нават не выслухаўшы гр. П., вырашыў дазволіць упраўленню перадаць грошы ў судовы дэпазіт. Якім спосабам можа гр. П. даходзіць сваёй крыўды?

АДКАЗ: Пастанова аб экспрапрыяцыі нерухомай маёмасці на дзяржаўныя мэты можа быць абжалавана адміністрацыйным парадкам. Гэта адносіцца і да велічыні кампенсацыі за экспрапрыіраваную маёмасць. Кампенсацыю выплачваюць пасля таго, калі пастанова аб экспрапрыяцыі стала правамоцнай, г.зн. не можа быць абжалавана. У даным выпадку не было асноў адмаўляцца ад прыняцця грошай, а Ваяводскае ўпраўленне мела права перадаць грошы ў судовы дэпазіт, што раўназначна з заплатай доўгу, але толькі да велічыні сумы, перададзенай у дэпазіт. Роля суда ў даным выпадку абмяжоўваецца да выдання рашэння аб прыняцці грошай у дэпазіт. Праслухоўванне асобы, на карысць якой складаюцца ў дэпазіт грошы, у гэтых выпадках не прадбачыцца.




— Паўзком! — крыкнуў Цімошкін Блішчынскаму, шапка якога тырчала за ўзмежкам. — Паўзком, чуеш?

Чарга зноў сцебанула па галлі дрэўцаў, зноў некалькі ссечаных галінак падхапіў на ляту вецер. Няспрытна ўпраўляючыся адною рукою, хлопец папоўз на баку, цягнучы за сабой аўтамат. Блішчынскі ж нешта паварушыўся і прыціх. У Цімошкіна ўжо адышла крыху тая шалёнасць, з якой ён накінуўся на земляка, і цяпер, вельмі баючыся за Ваню, ён пачынаў трывожыцца, каб не здарылася чаго і з Блішчынскім.

— Ну што? Давай хутчэй!

Грышка падняў над узмежкам галаў і праз вецер роспачна, горача загаманіў:

— Слухай, Валодзя! Што ты робіш? Што ты робіш? Яны ж зараз пераб'юць нас. Куды ты пнешся? Можа ён забіты ўжо, а навошта мы лезем? Хто ён табе: брат ці радня якая, чаго ты на ражон лезеш? Давай вернемся, пакуль жывыя. Чуеш? Давай назад. Мы ж свае людзі. Землякі. А ён... Давай вернемся.

Цімошкін не чакаў гэтага, думаў, што ён адчуў там, ля сцірты, агіднасць сваіх паводзін і калі падпарадкаваўся яму, дык зразумеў хлопцаву лютасць. Але, відаць, не. І цяпер, угаворваючы яго вярнуцца, сам паварочваў назад, памалу адпаўзаў, затуліўшыся ад куль за ўзмежак. Зноў у Цімошкіна ўскіпела злосць да гэтага чалавека — ён зразумеў, што пісара трэба гнаць наперад пад дулам.

Падхапіўшы аўтамат, ён пераскочыў цераз узмежак і выцягнуўся на снезе побач з Грышкам. Той насцярожанымі, поўнымі спалоху і просьбы вачыма зблізку паглядзеў на хлопца, але, мабыць, не ўбачыў таго, што хацеў.

— Наперад!! — скрыгануўшы зубамі, загадаў Цімошкін і адною рукою, як пісталет, наставіў на яго аўтамат. — Наперад!!! — ад злосці яго голас сарваўся на крык.

Грышка марудна адвёў ад земляка панылы свой позірк, нешта прабурчаў і, няўмела валюхаючы задам, папоўз ля ўзмежка. Цімошкін задыхаўся ад снегавой віхуры, паднятай яго целам, і поўз следам. Хлопцу было страшэнна цяжка і нязручна, хацелася ўскочыць і бегчы, але ён баяўся рызыкаваць, тым больш, што пад кулямі гнаць наперад Блішчынскага, відаць, не ўдалося б. І ён пяўся з усяе сілы, стараючыся не адстаць ад сержанта, і, калі той спыняўся, штурхаў яго ў выслізганыя падэшвы ствалом аўтамата. Зямляк, не азіраючыся, неахвотна поўз.

Урэшце яны дабраліся да раўчука. Увесь гэты час, паўзучы за ўзмежкам, Цімошкін не мог бачыць Івана. Цяпер зірнуў на сябра — той таксама ўжо дапоўз да раўчука і курчыўся на тым яго схіле. Побач, скіраваны ў бок ворага, ляжаў аўтамат.

Блішчынскі яшчэ поўз, увесь укачаўшыся ў снег, а Цімошкін ужо не мог вытрымаць — падхапіўся і сігануў у раўчук. Немцы, пэўна, не бачылі іх і перасталі страляць. Снег у раўчуку быў глыбокі, і боты да самых калень патанулі ў гурбе. Разграбаючы счырванелаю рукой снег, хлопец яшчэ здалёк убачыў нахмураны Ванеў твар, на якім быў боль, клопат і яшчэ ціхая нямая ўдзячнасць. Абапіраючыся на аўтамат, Цімошкін ускарабкаўся па адхону, і з самае яго душы, як стогн, вырваліся дакор і пытанне:

— Нашто ты ішоў, Ваня?

Шчарбак хацеў паварушыцца, але толькі сцяў зубы і, пэўна стараючыся як мага спакайней, сказаў:

— Ладна, нічога. Перавяжы як-небудзь...

Цімошкін кінуў аўтамат, укленчыў ля яго — Ваня рукой дакрануўся да свайго бядра. У яго ватных штанах ля кішэні цямнела мокрая пляма, а з невялікае дзіркі тырчаў клык акрываўленай ваты.

Завіхаючыся ля сябра, ён, мусіць, вельмі вытыркнуўся з раўчука, і з хутара зноў загрукацела чарга. Некалькі куль, ударыўшы ў голы выдзьмуты ветрам узлобак, зямлёй і снегам пырснулі ў іхнія твары. Цімошкін абцёр рукавом твар і, прыгнуўшыся, непаслухмянай акалелай рукой пачаў расшпільваць Іванава адзенне. Ён вельмі спяшаўся, і яго сэрца ад стомы і пакут шалёна калацілася ў грудзях.

— Блішчынскі, хутчэй! — крыкнуў Цімошкін пісару, які нязграбна і яўна не спяшаючыся выбіраўся з гурбы. Урэшце ён боязна падпоўз да іх, і хлопец загадаў:

— Ірві сарочку!

Грышка недаўменна заміргаў сваімі вострымі вочкамі, не разумеючы, што ад яго трэба, і Цімошкін, вылаяўшыся, растлумачыў тое са злосцю. Сяржант палажыў аўтамат, дрыжачымі рукамі выцягнуў з-пад свайго шыняля край нацельнай сарочкі, адшкуматаў ад яе падол, і яны, схіліўшыся над Ванем, пачалі завязваць яго акрываўленае бядро. Крыві было многа, яна сачылася і сачылася з раны, скрозь заліўшы сабой хлопцаву адзежу.

Яны перавязалі нагу, хоць і не надта ўдала, бо спяшаліся і не дужа слухаліся іх змёрзлыя рукі. Ваня, відаць, вельмі пакутаваў, але трываў, сцяўшы зубы, і ў глыбіні яго ных заўсёды сур'ёзных вачэй свяціліся боль і трывога. На чарнаватым ад шчаціння твары

